Заснавана у 1991 г.
№ 10 (22) 2000
ЛІСТАПАД

# ПАХОДНЯ

Бялыніцкі асьветніцкі, інфармацыйны бюлетэнь

## ВУЧАНЬ ПАКАЗАЎ, ЯК ТРЭБА ПРАЦАВАЦЬ

Вучань адзінаццатага класа Вішоўскай СШ Алесь Якушаў на працягу летніх канікулаў колькі гадоў запар ідзе працаваць памочнікам камбайнера ў калгас імя Фрунзе. Не выключэннем для хлопца сталі і селетнія канікулы. Праўда, Алесю нечакана для яго самога давялося з самага першага дня жніва працаваць у якасці камбайнера. Паколькі сталы камбайнер, з якім увесь час хлопец рабіў, захварэў і апынуўся на бальнічным ложку.

Калі ж у калгасе падвялі вынікі працы, то аказалася, што Алесь Якушаў на камбайне «ДОН - 1500» намалаціў зерня болей за ўсіх : 623 тоны, альбо трэцюю частку сёлетняга ураджаю калгасных ніў.

Ад школьніка на 199 тон адстаў нават экіпаж вопытнага камбайнера Леаніда Гаўрыленкі, які ў папярэднія годы, бадай, нязменна трымаў першынство.

Словам, калгасным механізатарам, як кажуць, ёсць над чым паразважаць, бо школьнік паказаў ім, як трэба працаваць.

**НАШ.КАР.**



## ДАПАМОЖАМ ДЗЕЦЯМ

**У лютым страшэннае гора напаткала сям"ю Аляксея і Лідзіі Пугачоў з вёскі Эсьмоны.**

У дарожна-транспартным здарэнні, што адбылося на цэнтральнай вуліцы гэтай вёскі па віне вадзіцеля аднайменнага саўгаса Д.Батэнкі, іх малыя сын і дачка атрымалі цяжкія раненні. Магілёўскія і бялыніцкія медыкі літаральна вырвалі з лапаў смерці Валерыка і Іну. Дзеці прызнаныя інвалідамі, кожнае паўгода ім патрабуецца праходзіць курс лячэння. Дарэчы, Валерка і цяпер знаходзіцца ў адной з менскіх клінік, дзе яму зрабілі дзве аперацыі.

Паводле судовага рашэння, саўгас «Эсьмоны» сям"і Пугачоў павінен выплаціць 10 мільёнаў рублёў. Аднак прайшло ўжо болей за паўгода, але гаспадарка зыскавую суму так і не сплаціла.

-У нас,-распавядае Аляксей Пугач,- няма ані капейкі грошай. Жонка, каб дагледзіць параненых дзяцей вымушана была сысці з працы. А тыя зберажэнні, якія былі ў нас, і ахвяраванні добрых людзей патрацілі на лячэнне сына і дачкі. Вось і зусім нядаўна, калі трэба было везці Валерку на аперацыю ў Менск, жонка зняла сабраныя нам грошы з ашчаднай кніжкі і паехала. Каб не тыя грошы, не ведаю, што было б рабіць.

Дырэкцыя саўгаса не спяшаецца выканаць рашэнне суда. Корміць» сям"ю толькі абяцаннямі: маўляў, прададзім збожжа - выплацім. Жніво даўно скончылася, а грошай няма. Затым паабяцалі разлічыцца, як здадуць бычкоў. Зноў-ку нічога не атрымалася...

У Аляксея Пугача склалася ўражанне, што саўгас проста не хоча выконваць рашэнне суда. А таму і валаводзіць.

Аднак, як кажуць, свет усё ж такі не без добрых людзей. Яшчэ летам намеснік раённага пракурора Т.М.Ракіцкая па ўласнай ініцыятыве адкрывае ў Бялыніцкім аддзяленні ААБ «Беларусбанк» рахунак дазапатрабавання на імя Лідзіі Пугач. Ахвяравала на дапамогу гэтай сям"і свае грошы і заклікала зрабіць тое ж самае сваіх сяброў, знаёмых. З-вярнулася з гэтай просьбай і да арганізацый, працоўных калектываў. Адгукнуліся, вядома, далёка не ўсе. Але грошай для сям"і Пуга-

Гл. 2 ст.

## Хроніка Бягучых Падзей



***З пачатку бягучага года зарэгістраваны 39 выпадкаў гвалтоўнай смерці жыхароў раёна. У тым ліку: наўмысныя забойствы - 4, самазабойствы - 9, алкагольныя атручванні - 12.***

***Адбылося гэтаксама і 8 суіцыдных спробаў, пры якіх смерць не наступіла толькі дзякуючы своечасоваму ўмяшальніцтву сваякоў і аказанню неадкладнай медычнай дапамогі.***



Напрацягу жніўня - верасня жыхары Лямніцы жылі ў пастаянным страху, які наводзіў на іх нейкі начны падпальшчык.

Напрыклад, 28 жніўня апоўначы загарэлася сціртa саломы на сядзібе Н.Галузы. Агонь злізаў каля тоны гэтага корму.

У верасні таксама апоўначы ўспыхвалі сціртa саломы ў гаспадарцы В.Волкава, Л.Баяравай, В.Паўлава.

Неўзабаве быў затрыманы і начны падпальшчык. Піраманам аказалася жыхарка суседняй вёскі Валянціна Д.

Аб матывах, якія пабуджалі гэту жанчыну брацца за сярнічкі, пакуль не вядома.

СТРАТЫ

## ТАМ, ДЗЕ ЗНАХОДЗЯЦЬ, У НАС - ГУБЛЯЮЦЬ...

Як вядома здавён часу, прырода пустаты не цярпіць. Тое ж самае адносіцца і да такой складанай і тонкай сферы, якой з"яўляецца эканоміка. Спрыяльная ніша можа існаваць нядоўгі час. Разваротлівыя, кемлівыя людзі яе знаходзяць і запаўняюць - паслугамі, вытворчасцю, таварамі... Тыя ж, хто не разумее гэтага, альбо прызвычаіліся чакаць з мора надвор"е, губляюць звычайна там, дзе іншыя знаходзяць.

Возьмем сельгасвытворчасць. Сёння справы ладзяцца толькі ў тых калгасах ды саўгасах, дзе вялікае значэнне надаецца якасці прадукцыі, нарошчванню яе аб"ёмаў, скарачэнню затратнага механізму.

Можна пэўныя сумы знайсці і на якасці прадукцыі. Малако вышэйшага гатунку прымаецца па вышэйшым кошце, чым скажам другога гатунку. За 9 месяцаў бялыніцкія калгасы ды саўгасы вышэйшым гатункам рэалізавалі толькі 16 адсоткаў надоенага сырадою. Другім і негатунковым адпаведна 6 і 1 адсоткі. На гэтым яны беззваротна страцілі 8,714 млн.руб.

Сабекошт тоны малака склаў 75,5 тыс.руб. пры значна меншай рэалізацыйнай цане. Павялічваецца і працаёмкасць вытворчасці малака. На атрыманне цэнтнера яго затрачваецца па 11,2 чалавека/дні.

Падлічана, што страты грашовых сродкаў на кожнай тоне малака ў сярэднім склалі па 12,6 тысячы.руб.

А ў цэлым 18 сельгасгаспадарак раёна на падзяжы, якасці малака і мяса згубілі 79526 тыс.рублёў.

**УЛ.ІНФ.**

## ДАПАМОЖАМ ДЗЕЦЯМ

(Працяг.Пач.1ст.)

чоў крыху сабралі.І яны аказаліся дарэчы: памятаеце словы Аляксея - каб не гэтая сабраная сума,то не ведалі б,што рабіць,каб адвезці Валерыка на аперацыю ў Менск.

Сям"і Пугач падтрымка патрэбна і цяпер.Каб падняць на ногі пакалечаных дзяцей, калі не вярнуць,то паправіць здароўе маленькім Валерыку і Іне.

Застаецца спадзявацца,што добрых,сардэчных людзей сярод нас не так ужо і мала. Для іх і **паведамляем нумар рахунку да запатрабавання ў Бялыніцкім аддзяленні ААБ «Беларусбанк» № 01050608 на імя Пугач Лідзіі Аляксееўны.**

Чужога гора не бывае.

Дапаможам дзецям.

*М. З - ы.*

## ВЕСТКІ З РЭГІЁНАЎ

**Глуск.**У школах раёна праходзіць збор подпісаў пад заявою з патрабаваннем да кіраўніцтва краіны.Настаўнікі патрабуюць павелічэння заробкаў. Свае подпісы паставілі ўжо работнікі вялікай колькасці ўстаноў адукацыі раёна.Сабраныя падпісныя лісты перадаюцца ў райкам прафсаюзу работнікаў адукацыі і навукі.

*Ігар КІРЫН.*

**Шклоў.**Па школах раёна працягваецца збор подпісаў пад лістом да прэзідэнта з просьбай падвысіць настаўніцкія заробкі. Шмат хто не ставіць сваіх аўтографаў.Адны - па прычыне таго,што не вераць у дзейснасць гэтай паперы.Іншыя - з-за страху.

Мясцовыя вострасловы называюць гэту акцыю шэсцем прасіцеляў,якія не патрабуюць свайго,а пакорліва просяць звярнуць увагу на іхнае бядотнае становішча.

*Алесь ШЧАРБАК.*

**Асіповічы.**Жыхары пасёлка Ялізава адмаўляюцца аплочваць рахункі за ацяпленне сваіх дамоў.Некалькі дзён у кастрычніку,калі ацяпленне пайшло ў кватэры,раённае аб"яднанне жыллёва-камунальнай гаспадаркі палічыла за цэлы месяц.Таму ў дасланых ялізаўцам рахунках былі пастаўлены занадта вялікія сумы.Да таго ж у згаданыя кастрычніцкія дні батарэі былі цёплымі ўсяго па некалькі гадзін на суткі.

*Р. ЛАТЫШЭВІЧ.*

**Магілёў.** Мясцовыя эколагі распачалі акцыю «Каштан».Вучні трох школ разам з настаўнікамі сабралі амаль паўтоны каштанаў,якія стануць асновай для закладкі каштанавага пітомніку.

Акцыю наладзілі актывісты прыродаахоўнай справы,што ўтвараюць зараз экалагічны інфармацыйны цэнтр «Энда».

*С.ГЛАЗШТЭЙН.*

### ДУМКІ ЎСЛЫХ

# ПРА ДАВЕР І НЕДАВЕР

***Страціць давер надзвычай лёгка,а вось заваяваць яго - ой,як цяжка.Надзвычай цяжка!А для некаторых нават і немагчыма.І не людзі ў гэтым вінаватыя.Трэба пакапацца,як кажуць,у сабе.***

Страта даверу для кожнага - бізнесоўцы,палітыка,кіраўніка і проста звычайнага чалавека з"яўляецца катастрофай. Вядома,цяжка жыць,мець нейкія стасункі,калі табе не давяраюць. Зразумела,у такім выпадку на кар"еры можна ставіць тлусты крыж.Таму кожны стараецца зрабіць усё магчымае,каб зберагчы давер.Давер сям"і,суседзяў,сяброў,калег,партнераў.Зберагчы давер людзей.

Дзяржава таксама павінна даражыць даверам сваіх грамадзян,бо ў канчатковым выглядзе страта даверу грамадзян да дзяржавы непазбежна будзе біць па самой жа дзяржаве.

А колькі дзяржава падманьвала сваіх грамадзян,мабыць,вядома ўсім.І хоць гэта набіла ўжо добрую аскоміну,але ўсе ж такі мушу штокольвечы згадаць з гісторыі апошняга дзесяцігоддзя.

Спачатку ў выніку вядомых падзей выключна большая частка грамадзян страціла свае зберажэнні ,якія даручыла захоўваць і выкарыстоўваць дзяржаве.

Больш за тое,асноўную частку гэтых грамадзян складалі асобы з нізкім дастаткам,якія ўсё сваё жыццё аддалі цяжкай,знясільваючай працы ў калгасах і саўгасах і на прадпрыемствах.Гэта яны сваёй самаахвярнай працай забяспечылі індустрыяльную і ваенную моц дзяржавы.А ў замен атрымлівалі мізэрныя заробкі,а то і зусім нічога - «палачку»,як у калгасах у 50-я гады.Дбаючы пра сваю старасць,яны,адрываючы ад сябе,збераглі па некалькі сотняў рублёў на пахаванне.На «чорны,як казалі самі,дзень».Але іх падманулі. Падманула дзяржава.Грошы іх пераразмеркаваліся сярод аферыстаў і жулікаў,якія з гэтых сродкаў зрабілі сабе першапачатковы капітал,распачалі небывалае будаўніцтва асабнякоў і палацаў,адпачываюць на Кіпры ды Канарах і ,канешне ж,не перабіваюцца,як большасць з нас, хлебам,капустай ды агурком. І самымі вялікімі магчымасцямі пры «пераразмеркаванні» тых сродкаў карысталіся тыя, хто знаходзіўся пры уладзе. Бо,вядома ж,яны маглі без праблем атрымаць сабе банкаўскія крэдыты па нізкіх працэнтных стаўках. І гэта ў той час, калі простыя людзі не маглі зняць з «кніжак» сваіх жа грошай. Ужо значна пазней быў зроблены выгляд,што чэкамі «Маёмасць» нібыта кампенсуюцца страчаныя зберажэнні.Маўляў, кожнаму даецца права ўдзельнічаць у прыватызацыі і раздзяржаўліванні эканомікі.Але ж не трэба забывацца,што перад гэтым адбылася прыхватызацыя...

Але вернемся да чэкаў.Напачатку было абвешчана,што намінальны кошт іх будзе складаць 36 тысячаў рублёў.Але іх на самой справе прымалі па 700-900 рублёў. І чэргі стаялі немалыя.

Такім чынам дзяржава не пакрыла і сотай часткі тых страт, якія панеслі большасць яе грамадзянаў.

У сувязі з тэмай гэтых роздумаў варта было б прыгадаць і талоны на набыццё рэчаў, у «эфектыўнасці» якіх таксама ўсе добра пераканаліся.

І зараз праз мізэрныя заробкі,высокія кошты тавараў і паслуг ідзе абіранне простага чалавека.Тут варта ведаць,што становішча з заробкамі пагаршаецца,пачынаючы ад сталіцы і буйных прамысловых гарадоў.

Тлумачыцца гэта хутчэй за ўсё тым,што пралетарыят больш актыўны ў абароне сваіх правоў і годнага ўзроўню жыцця,чым жыхар вёскі. Дый згуртаванасць адыгрывае ў гэтым далёка не апошнюю ролю. Аднаго запалохаць куды лягчэй,чым ,скажам,дзесяць,пяцьдзесят,сотню чалавек.

Аднак страх,як сведчыць досвед,ёсць не зусім надзейная апора. Ён,як і ўсё,мае асаблівасць праходзіць.

***Генадзь** ЛАПО.*

### Адным абзацам

**Сёння жыхары толькі 60 населеных пунктаў раёна могуць спажываць артэзіянскую ваду,што складае 30,2 адсотка ад агульнай колькасці.**

***Жыллёвы фонд раёна складае каля 7 тысяч квадратных метраў агульнай плошчы.***

Сумны трыпціх (Працяг) **Міхась Карпечанка**

# АБ ЧЫМ ШУМІЦЬ КАВЫЛЬ-ТРАВА НА ПОЛІ НАШАЙ ПАМЯЦІ ?

**Паводле яго ж дадзеных, частка наглядсастава,якая жыла ў горадзе на прыватных кватэрах, не паспела пакінуць горада,засталася ў акружэнні немцаў,якія вылоўлівалі наглядчыкаў пры дапамозе зняволеных,што выйшлі з турмы, і на вуліцы расстрэльвалі.**

**Начальнік турмы г.Ломжа Баркевіч паведаміў рапартам аб тым,што г.Ломжу немцы занялі а 12 гадзіне дня 22 чэрвеня 1941 года.Эвакуіраваць зняволеных ён не паспеў.Вызваліў толькі былых ваеннаслужачых і асуджаных па Указу,астатніх паняволеных зачыніў у камерах.Пры чым ён указаў,што ён неаднаразова прасіў указанняў ад нач. гараддзелаў НКУС і НКДБ аб эвакуацыі арыштаваных і аказанні дапамогі,якой яму не аказвалі.**(Аналагічныя паводзіны,згадаем,былі характэрныя і для супрацоўнікаў гарадскіх аддзелаў у першую чаргу УНКДБ заходніх рэгіёнаў Украіны. Тут прасочваецца агульная лінія паводзінаў,што,магчыма, указвае на адпаведную арыенціроўку, пасланую з цэнтра,-М.К.) **З горада выехаў,пакінуўшы турму на волю лёсу.Сам Баркевіч і наглядсастаў выйшлі з Ломжы тады,калі ўжо немцы займалі горад і знаходзіліся ад турмы на адлегласці аднаго кіламетра.**

**А 11 гадзіне дня ад нач. турмы г.Гродна ў турэмнае упраўленне паступіла паведамленне па тэлефоне аб тым,што на двор турмы ўпала бомба,ад выбуху якой паветрам выбіла ўсе дзверы ў адзіночным корпусе.Сярод зняволеных усчалася паніка.Апошнія павыбягалі ў калідоры,спрабавалі выбрацца з корпуса.Пасля атрымання паведамлення яму было дадзена распараджэнне: усіх зняволеных адзіночнага корпуса перавесці ў галоўны корпус і ўзмацніць ахову.**

**Пасля 11 гадзін дня тэлефонная і тэлеграфная сувязь з Гродна была перапынена.Аб далейшым лёсе турмы стала вядома толькі 28 чэрвеня 1941 года асабіста ад нач. турмы і нач. санчасці Уладзімірава і Гарунова,якія паведамілі:**

**«У 2 ці 3 гадзіны дня падчас наступнай бамбардзіроўкі горада адна са скінутых з самалёта бомбаў патрапіла ў галоўны корпус турмы,які разбурыла,пахаваўшы пад абломкамі вялікую колькасць паняволеных.Ноччу патрапіла трэцяя бомба,якая разбурыла частку корпуса другога і разваліла каркас.Зняволеныя,якія знаходзіліся ў корпусе, выбеглі з яго і кінуліся на вуліцу.Наглядсастаў не здолеў іх стрымаць.Не атрымаўшы аніякіх указанняў ні ад нач. НКДБ і НКУС,бо іх ужо ў горадзе не было,Уладзіміраў даў распараджэнне: турму пакінуць і выйсці з горада наглядсаставу».**

**22 чэрвеня 1941 года пачалася бамбардзіроўка гарадоў: Ваўкавыска,Слоніма,Навагрудка,Ліды.**

**З боку Турэмнага упраўлення раніцою таго ж самага дня было дадзена распараджэнне па тэлефоне:усім начальнікам турмаў Баранавіцкай,частцы Беластоцкай,Вілейскай,Пінскай абласцей і турмаў усходніх абласцей БССР аб узмацненні турмаў і пераводзе наглядсастава на казарменнае становішча.Не ведаючы манеўровасці нямецкай арміі і не мяркуючы аб хуткім прасоўванні яе і захопе гарадоў заходніх абласцей БССР,22 чэрвеня днём указанняў начальнікам турмаў аб эвакуацыі паняволеных не давалася.**

**Увечары 22 чэрвеня з Ваўкавыска нач. турмы Ладугін паведаміў аб набліжэнні нямецкага войска.Яму было дадзена ўказанне вывесці зняволеных у першым парадку.А 23 гадзіне ён паведаміў па тэлефоне,што зняволеных вывеў і рухаецца з усім асабовым саставам на Баранавічы.Напрацягу ночы 23 чэрвеня было дадзена распараджэнне па тэлефоне аб эвакуацыі турмаў Вілейскай вобласці, Пінскай і часткі Баранавіцкай /Стоўбцы, Навагрудак/.З астатнімі турмамі сувязі ўжо не было,яна была перарвана праціўнікам.Аднachасова з гэтым для аказання дапамогі па эвакуацыі зняволеных у г.Гродна быў камандзіраваны нач. аператыўнага аддзела Парэмскі / выехаў а 8 гадзіне вечара 22 чэрвеня/,але ў Гродна ён не дабраўся,а даехаў толькі да Маладзечна Вілейскай вобласці,дзе ён па тэлефоне 23 чэрвеня звязаўся з начальнікамі турмаў Ашмянаў,Глыбокага, Вілейкі і даў ім распараджэнне аб эвакуацыі зняволеных.Сам жа ён эвакуіраваў турму Маладзечна.**

**23 чэрвеня 1941 года з прычыны ўзрастаючай пагрозы становішча ў заходніх абласцях па распараджэнню нам. наркама унутраных спраў БССР палкоўніка т.Місюрава з аперсаставу і начсаставу Турэмнага упраўлення былі сфарміраваны дзве аператыўныя групы для накіравання іх у турмы Баранавіцкай вобласці,але да канца дня гэта распараджэнне было адменена.Позна вечарам 23 чэрвеня было атрымана Ваша распараджэнне /тэлеграфнае / аб эвакуацыі турмаў Заходніх абласцей,на падставе якога быў распрацаваны падрабязны план.У сувязі з гэтым распараджэннем кіраўніцтва наркамата камандзіроўку аператыўных груп адмяніла і перавозку зняволеных усклала на канвойныя часці.Камандзір 15-й брыгады канв. войск Пляханаў раніцай 24 чэрвеня / 8 гадзін / далажыў кіраўніцтву наркамата, што ў яго няма дастатковага канвою,але яму ўсё ж такі дадзена распараджэнне:тэрмінова выкінуць усе наяўныя сілы і сумесна з наглядсаставам турмаў вывезці паняволеных.Пляханавым гэтае ўказанне выканана не было,бо ён па дарозе з наркамата ў сваю часць быў забіты, не паспеўшы перадаць загад па часцях / аб гэтым даведаліся 26 чэрвеня ў Магілёве/.**

**Да таго ж,гэтае мерапрыемства запазнілася,бо а 10 гадзіне раніцы 24 чэрвеня прыехалі ў Мінск супрацоўнікі турмаў Навагрудка,Баранавічаў,Ліды,Нясвіжа,Брэста,якія перадалі,што ўсе гарады Баранавіцкай,Беластоцкай,Брэсцкай абласцей эвакуіраваны 23 чэрвеня і частка ўжо занята немцамі.**

**На запатрабаваныя ад начальнікаў турмаў дадзеныя аб турмах,яны рапартамі паведамілі:**

**Нам. нач. аперчасці турмы Баранавічаў Ізотаў / нач. турмы знаходзіўся ў адпачынку /:**

**23 чэрвеня 1941 года турма была абстраляна з паветра з кулямётаў.Стварылася паніка.Кіраўніцтва УНКДБ,УНКУС з горада выехала ўсім асабовым саставам супрацоўнікаў падчас бамбардзіроўкі горада і будынка УНКУС / згарэў /.Сувязі ні з кім не было,сам ён разгубіўся,даў распараджэнне: зняволеных пакінуць у турме і ратавацца асабоваму саставу.**

**Магчымасць для эвакуацыі турмы была.Турма знаходзіцца на адлегласці 20 кіламетраў ад чыгуначнай дарогі.Пры настойлівасці Ізотава ён змог бы атрымаць вагоны ці , у крайнім выпадку, выйсці пехатою да бліжэйшай станцыі.**

**Начальнік турмы г.Беластока Кавалёў данёс,што 23 чэрвеня нач. УНКУС капітан дзяржбяспекі Фукін даў яму распараджэнне : зняволеных у турме закрыць у камерах,пакінуць турму,а яму з асабовым саставам выязджаць з Беластоку,што ён і зрабіў.**

**Названае распараджэнне Фукін пацвердзіў у прысутнасці мяне і нач. чыгункі т. Сцяпанава ў памяшканні аддзялення сувязі мястэчка Чэрніцы Віцебскай вобласці,дзе быў размешчаны наркамат унутраных спраў БССР.**

**Нач. турмы г. Навагрудак Кручкоў:**

**23 чэрвеня ў час бамбардзіроўкі горада ён усіх зняволеных з турмы вывеў і пасадзіў у вагоны.На станцыі на канвой напалі мясцовыя жыхары,уварваліся ў вагоны і вызвалілі паняволеных.У час перастрэлкі з нападаючымі яго параніла ў руку.**

**Нач. турмы г. Нясвіжа Арусланаў паведаміў рапартам,што зняволеных у колькасці 120 чалавек ён вывеў на дарогу і павёў пешым строем на ст. Гарадзея.Па дарозе наляцелі самалёты...**

*Працяг будзе.*

ПАМЯЦЬ

# БЫЎ. ЁСЦЬ. БУДЗЕ

*Бог пайшоў.Жыццё ідзе пад кручу,*
*Але йдзі і не губляй спакой.*
*Ёсць замест прыватнай неўміручасці -*
*Бессмяротнасць нацыі тваёй.*
*Ты памрэш.Але ў бязмежным свеце*
*Будуць працвітаць твой Люд і Край...*
*Вер,што ў гэтым,вер,што толькі ў гэтым*
*Шчасце пасмяротнае і рай.*

Лістапад абвешчаны месяцам нашага вялікага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча,з дня нараджэння якога (26) спаўняецца 70 гадоў.

Уладзіміра Сяменавіча няма сярод нас больш за 16 гадоў ( памёр 25 ліпеня 1984 года).

У прадмове да Караткевічавага Збору твораў Васіль Быкаў напісаў : «Ён быў з пароды тых жыццялюбаў,якія ўсё радзей сустракаюцца ў нашым жыцці,тым больш нячаста ажыццяўляюцца ў мастацтве.Можна нават сказаць,што ён быў чалавек рэдкі,бо нават у сталыя гады шчасліва спалучаў у сабе чалавечую мудрасць з непасрэднасцю дзіцяці... У яго было вялікае чалавечае сэрца. Яго прыхільнасць да жыцця наогул не ведала межаў,і ў ёй заўсёды было месца для незвычайнага.Гэта незвычайнае ён умеў бачыць скрозь і ўсюды,падмячаць сваім вострым мастакоўскім вокам,узбагачаць у тыглі свайго ўяўлення».

Караткевіч быў адначасова і гісторыкам,і літаратарам, паэтам і празаікам, драматургам і публіцыстам,крытыкам і перакладчыкам,раманістам і навелістам,эпікам,рамантыкам,лірыкам .. Ва ўсіх відах і жанрах літаратурнай дзейнасці ён мае найвыдатнейшыя дасягненні,вялікія здабыткі.

Беларусь мела і мае патрэбу ў такіх людзях. Каб не загінуць,не растварыцца ў бяспамяцтве ды забыўлівасці.

Уладзімір Сяменавіч адчуў гэтую патрэбу і аддаў дзеля яе ўсяго самога сябе.

Уся творчасць знакамітага беларускага пісьменніка прасякнута болем за родны край.Таму яна і зараз гучыць вельмі надзённа,вярэдзіць сумленне,мацуе веру.

Уладзімір Караткевіч пісаў тое,што хацеў.Не падладжваўся пад каньюктуру.Кіраваўся выключна сваёй свядомасцю і сумленнем шчырага беларуса.

Ён імкнуўся давесці ўсім,і найперш - самім беларусам,што яны не горшыя за іншых,што ў іх усё было і ўсё ёсць:свая гісторыя,свая адметная культура ! не ад 17 года яны пачаліся,як нястомна сцвярджалі дэнацыяналізаваныя чыноўнікі і вучоныя.

Караткевіч абгрунтавана паказвае,як беларускі народ, прайшоўшы праз пекла неймаверных пакут,не стаціў уласнае нацыянальнае аблічча, сваю душу. Выразнікі нацыянальнай ідэі з"яўляюцца і абаронцамі народа.Барацьбіты за народ ёсць змагары за Радзіму.

Пра што б ні пісаў Караткевіч,заўседы ў яго творах прысутнічаў светлы вобраз Радзімы.

...Паспрабуйце знайсці ў кнігарнях творы Уладзіміра Караткевіча. Не губляйце часу - іх няма.Няма,бо не залежваюцца на паліцах,не пакрываюцца пылам.Яны - запатрабаваны людзьмі.Іх - чытаюць.

У Воршы, на радзіме Уладзіміра Сяменавіча,у дзень яго юбілею адкрыўся музей пісьменніка.Па задуме яго стваральнікаў,музей стане цэнтрам актыўнай прапаганды роднай мовы, культуры,гісторыі. Тут, напрыклад,адкрыюцца курсы для авалодання беларускай мовай,а прыгожа абсталяваны дворык будзе выкарыстоўвацца як тэатральная сцэна.

На Беларусі помняць Уладзіміра Караткевіча, чытаюць яго творы.Значыць,пісьменнік не пайшоў ад нас.Ён - з намі.А таму ён быў,ёсць і будзе!

Міхась *КАРПЕЧАНКА.*

## НАШ КАЛЕНДАР

*СНЕЖАНЬ*
*снегам беліць*

П.4.**УВЯДЗЕННЕ.**
А.5. **ПРАКОП.**
С.6. **ВАРАЖБІТ.**
Ч.7. **КАЦЯРЫНА**.
Суб.9. **ЮР"Е.**
С.13. Дзявочыя варожкі. **АНДРЭЙ**.
Ч.14. **НАВУМ-НАСТАЎНІК.**
Н.17. **БАРБАРЫ**. Міколіна матка.
П.18. **САВЫ**. Міколін бацька.
А.19. **МІКОЛА.**
Ч.П. 21-22. ***СОНЦАВАРОТ.***
П.25. **РАСТВО.**
Н.31. ***НОВЫ ГОД.***
**1 - 31 - ПІЛІПАЎКА.**

***У папераджальнай акцыі прадпрымальнікаў Беларусі прынялі ўдзел і бялыніцкія бізнесоўцы. Не выйшлі на свае працоўныя месцы каля 70 прадпрымальнікаў.***

***Яны таксама заявілі, што калі дзяржава не прыслухаецца да іх голасу і не пераглядзіць падатковую палітыку,то яны будуць страйкаваць.***

## АБВЕСТКА

Аўтары Краязнаўчай энцыклапедыі Бялыніцкага раёна па неабходныя кансультацыі павінны звяртацца па тэлефоне № **51 - 392**, запытацца Міхася Карпечанку альбо Міхася Радоўскага.

## ЗМАГАЛІСЯ ЗА ВОЛЮ

***Збройнае беларускае паўстанне ў лістападзе 1920 года на Случчыне было адказам беларусаў на палітыку знішчэння нашай нацыянальнай дзяржавы,якую праводзіла бальшавіцкая Масква.Гэтаксама то быў адказ на польска - савецкія планы падзелу Беларусі.***

***27 лістапада 1920 года першая беларуская дывізія пайшла ў бой за Вольную Беларусь.***

***Знаходзячыся ў крайне няроўных умовах, паміралі людзі за радзімую старонку шчыра і без боязі,бо пэўна ведалі,на што ішлі,за што гінуць.***

***Праз месяц ад пачатку паўстання частка тых,хто застаўся жывым пасля баёў з адборнымі бальшавіцкімі атрадамі, перайшла польскую мяжу і была абяззброена палякамі. Частка паўстанцаў засталася на Бацькаўшчыне і,арганізаваўшыся ў партызанскія атрады,яшчэ доўгія гады змагалася за Незалежнасць Радзімы.***

***Змаганне паўстанцаў не было дарэмнае. Яны самаахвярна паміралі дзеля будучыні.***

**паходня**
Культурна-асьветніцкі, інфармацыйна - аналітычны бюлетэнь

Рэдактар
**Генадзь Лапо**
т. 52-431

выдаецца выключна на беларускай мове
распаўсюджваецца бясплатна
**наклад 299 асобнікаў**

# ЗЬНІЧ

**Укладка Бялыніцкай суполкі ГА *«Маладая Грамада»*. № 1**

***Зьніч** - сьвяты непагасны агонь. Нашыя продкі шанавалі яго як вечную крыніцу жыцьця, цеплыні й сьвятла.У многіх паселішчах былі храмы, у якіх гарэў непагасны Агонь.*

***Да Зьніча прыходзілі па дапамогу цяжкахворыя,спадзеючыся атрымаць палягчэньне ад пакутаў.***

***Жрацы па полымю Зьніча прадказвалі лёсы людзям і аніколі не памыляліся.***

***Зрэшты, у кожным доме быў свой храм Зьніча : хатні агмень - звычайная печка.***

## *БЯЗ КАМЭНТАРУ...*

**Крыху больш за месяц таму бялыніцкія маладаграмадоўцы рашылі паставіць сваю суполку на ўлік у райвыканкаме.**

Сабралі дзеля гэтага патрэбныя дакументы і аднесьлі іх у вядомы дом,што размясьціўся насупраць помніка бацьку кастрычніцкага перавароту 1917 году.

І сталі чакаць рашэньня.

Праз месяц яго і атрымалі. Вось яно.

«Разгледзеўшы Ваш зварот,- паведамляе старшыні Бялыніцкае суполкі «Маладая Грамада» Алегу Мяцеліцу старшыня Бялыніцкага райвыканкаму Генадзь Шпакоўскі,- па пытаньню пастаноўкі на ўлік у г.п. Бялынічы тэрытарыяльнай адзінкі, адзьдзяленьня,Грамадскага аб"яднаньня «Маладая Грамада»,Бялыніцкі раённы выканаўчы камітэт паведамляе,што для больш поўнага разгляду і рашэньня пытаньня па сутнасці Вам неабходна прадставіць у райвыканкам дагавор найму жылога памяшканьня ў дамах дзяржаўнага жыльлёвага фонду і ордэр на хвацеру,якую Вы жадаеце прымяніць у якасьці юрыдычнай адрэсы. Таксама пры звароце неабходна было ўлічыць,што ў адпаведнасьці з Законам «Аб адміністрацыйна - тэрытарыяльным дзяленьні і парадку вызначэньня пытаньняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнай уладкаванасьці Рэспублікі Беларусь» Бялынічы зьяўляюцца ня горадам,як Вы ўказалі ў звароце,а гарадзкім пасёлкам (г.п.Бялынічы).

Алег *МЯЦЕЛІЦА.*

<u>**Аб дабрачыннасьці**</u>

***Між барацьбы адвечнай***
***цемры і сьвятла***
***шукаем шлях свой***
***ды адчуем раптам:***
***чым больш ты маеш рыс***
***духоўных ад Хрыста,***
***тым большая магчымасьць***
***быць расьпятым.***

Ала *ВОЙЛАКАВА.*

## ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ...

*Па чутках,пасьля таго,як у райвыканкам былі перададзены дакументы на пастаноўку на ўлік Бялыніцкай суполкі грамадзкага аб"яднаньня «Маладая Грамада», актызаваў сваю дзейнасьць райкам БПСМ.З гэтае нагоды яны езьдзяць па школах раёну і прапаноўваюць вучням стаць членамі БПСМ*

*Па чутках,выбары 15 кастрычніка прайшлі чэсна,адкрыта й дэмакратычна.*

*Ходзяць чуткі,нібыта ў Бялынічах будзе стварацца раённы краязнаўчы музей.*

*Па чутках, зімы ў гэтым годзе на Беларусі не будзе.Так,кажуць людзі,маразы крышачку падпужаюць.Але зімы не будзе.*

*Ходзяць чуткі,што ў наступным годзе мы будзем атрымліваць на 100 даляраў.*

**на святочны абед**

**салат «НАШ»**

**Рыбныя кансэрвы здрабніць.Сыр і бялок вараных яйкаў нацерці на буйной тарцы.Жаўток - на дробнай.Цыбулю дробна нарэзаць.**

**Кладуць слоямі: бялок вараных яйкаў,рыбныя кансэрвы,цыбулю,сыр.Заліваюць маянэзам.**

**Пры падаваньні салат афармляюць пацертым жаўтком.**

**Маянэз расьціраюць з дробна прыгатаваным часнаком.**

**Смачна есьці!**

## *ПРА СЯБЕ І СВОЙ НАРОД*

**Ластоўскі шмат зрабіў дзеля таго,каб беларус пачуваў сябе Беларусам,ганарыўся сваёй мовай-,гісторыяй,культурай,Ганарыўся і паважаў свой народ.Змяшчае выпіскі з ягонай кнігі «Што трэба ведаць кожнаму беларусу».**

«Той,хто зыракаецца свайго народу - рэнэгат, здраднік, прадажнік - душапрадаўца.Здрада - ж -- гэта найгоршая ганьба. Таму шчыры беларус заўсёды будзе трымацца свайго беларускага народу,свайго краю: няхай лепей загіну,чымся адракуся ад свайго народу беларускага.Бо з Беларусяй і з беларускім народам зьвязана наша жыцьцё,бо Беларусь - гэта нашае найвышэйшае дабро,нашая радасьць і слава».

«Беларусы зьяўляюцца народам,бо маюць сваю асобную мову,беларускую, засяляюць суцэльнай масай адну тэрыторыю, маюць сваю даўнюю гісторыю,культуру,звычаі,становяць асобны фізычны і духовы тып і прапраяўлялі ды праяўляюць сваю сацыяльную сьвядомасьць і волю,імкнучыся да лепшага самастойнага жыцьця».

«Беларус павінен любіць свой край ,сваю мову і не выракацца іх. Павінен дбаць , каб у беларускім краі разьвіваўся дабрабыт, беларуская культура, і каб народ увесь быў шчасьлівым. Для дабра свайго народу і краю беларус павінен быць гатовым на найвялікшыя ахвяры,нават аддаць жыцьцё».

Выпісала С.*ВОЙЛАКАВА.*

### *ВІНШУЕМ!*

**Сябру ГА «Маладая Грамада»**
***Алеся Шарахоўскага* з днём народзінаў.**
***Здароўя.Волі.Шчасьця.- Патрыятызму!***
**Пачастуй нас смачна!**
**Тваё сябры і аднадумцы.**

## МЫ - ЗА ПЕРАМЕНЫ!

**Тут і цяпер,у Беларусі, на пераломе тысячагодзьдзяў,у 2000 годзе ад народзінаў Хрыстовых МОЛАДЗЬ ПАТРАБУЕ: пераменаў!**

*Беларускай Радай Моладзевых Арганізацыяў (БРАМА),у якую ўваходзяць «Маладая Грамада», »Асацыяцыя маладых прадпрымальнікаў», »-Малады Фронт»,»Беларускае аб'яднаньне маладых палітыкаў» дый іншыя арганізацыі, на 12 лістапада было прызначана правядзеньне агульнарэспубліканскае акцыі пад лозунгам «Моладзь патрабуе пераменаў!»*

*З гэтае нагоды у шматлікіх гарадах Беларусі прайшлі пікеты,мітынгі,шэсьці,імпрэзы дый канцэрты.*

*Сваім удзелам у акцыі моладзь сказала «НЕ!» сучаснаму рэжыму.Краіна дасягнула крытычнага моманту.Болей трываць немагчыма. Мы разам гаворым: «Беларусь - у Еўропу!»*

*Наш арыенцір - разьвітыя краіны заходняй цывілізацыі.*

*Мы выступаем за нацыянальнае адраджэньне Беларусі,за прэстыж беларускамоўнага навучаньня,за вяртаньне спрадвечных сымболяў Беларусі - бел-чырвона- белага сьцягу і гербу «Пагоня».*

*Мы - за сапраўдную дэмакратыю,за ўсталяваньне прававой дзяржавы.Канстытуцыя - асноўны закон дэмакратычнае дзяржавы.Ніхто ня мае права ставіць сябе вышэй за яе,змяняць ці ігнараваць Канстытуцыю.*

*Мы - за дзяржаўны суверэнітэт Беларусі.*

*Мы - супроць гандлю беларускай незалежнасьцю.*

*І бялыныцкая моладзь далучылася да ўсебеларускай акцыі «Пераменаў!». Арганізавала яе тут мясцовая суполка «Маладой Грамады» пры падтрымцы магілёўскай суполкі «Малады Фронт». У рэстарацыі «Бялынычы» прайшла з тое нагоды вечарына. На яе былі запрошаны бялынычане,якія бачаць будучыню сваёй дзяржавы вольнай,незалежнай,дэмакратычнай.*

*Распачаў вечарыну прывітальным словам старшыня суполкі «Маладая Грамада» Алег Мяцеліца.*

*Затым усе прысутныя з вялікім задавальненьнем паслухалі беларускамоўныя песьні ў непаўторным выкананьні магілёўскіх бардаў Сяржука Кулягіна,-Максіма Базылёва,Ляхона Цярэшчанкі.*

*Іхныя песьні сьветлай плыньню ўліваліся ў сьвяточны настрой удзельнікаў акцыі.*

*Таксама ўсе з цікавасьцю прынялі ўдзел у віктарыне »Бялыніцкая даўніна»,пытаньні якой былі складзеныя на падставе кнігі «Згукі мінуўшчыны»,якая колькі гадоў таму выйшла ў Бялыныцкай друкарні пад рэдакцыяй Міхася Карпечанкі.*

*А завяршыла праграму вечарыны дыскатэка пад выступленьне вядомага бялыныцкага рок-гурта Юрася Несьцярэнкі «WNITE NIGHT».*

*На жаль, заля рэстарацыі,дзе праводзілася гэная акцыя - вечарына,ня змагла ўмясьціць усіх жадаючых.*

*Але тыя,хто ўсё ж такі патрапіў на яе,доўга будуць перажываць сьветлыя ўражаньні.*

***Алег МЯЦЕЛІЦА.***

**ПАДУМАЙ!**

Калі ты - малады.

Калі ты - любіш сваю Радзіму -Беларусь, хочаш дасканала ведаць матчыну мову, нацыянальную гісторыю, калі ты любіш родную культуру,- будзь з намі.

***«Маладая Грамада».***

*НАШЫЯ ПЕСЬНІ*

### КРАЙ, ТЫ МОЙ КРАЙ

НАРОДНЫ АЛЬБОМ

Мы дапіць не пасьпелі да дна,
Як раптоўна пачулі: «Вайна!»
Ты сказаў мне :»Даруй і бывай»
І пайшоў бараніць наш край.

Край,ты мой край.
Грай,гэй,нам грай.
Дай веры,дай
І мы пераможам.

Мы ў шэрых мундырах
Пад шэрым крывіцкім небам
Перад навалам з Усходу
Станем мурам каменным,

Будзем стаяць непарушна,
Будзем стаяць непахісна -
З намі вера і праўда,
З намі Божая Маці.

Прыпеў.

З намі анёл-абаронца.
Будзем стаяць бясконца
Пакуль толькі хопіць моцы,
Пакуль толькі будзем жывы.

Прыпеў.

**Шукаем бацькоў, якія пажадалі б з наступнага навучальнага года,каб іхныя дзеці вучаліся ў беларускамоўных класах.**

**Т. 53-234.Запытацца АЛЕГА.**

***Тых,хто цікавіцца гісторыяй Бялыныцкага краю, запрашаем у вандролўку па Вішоўскіх мясьцінах.***

***Т. 53-234.***

**ПАЭЗІЯ**

**Сьвятлана ВОЙЛАКАВА**

### РОДНАЕ

**Я хачу,каб не забылі людзі**
**Мову беларускую сваю.**
**Не згубілі б у жыцьцёвай каламуці**
**Песьні,што зь вякоў у нас пяюць.**
**Між дзіцячых калыханак напявала**
**Песьні мая маці мне ня раз**
**Пра явор з калінінай Купалы,**
**Дзіўны Багдановіча раманс.**
**На душы маёй заўсёды сьветла,**
**Словы калі родныя гучаць.**
**І становіцца адразу зразумела-**
**Мову мы**
**павінны захаваць.**

***Бялыныцкая суполка ГА «Маладая Грамада» здыме дом альбо кватэру.Пажадана - з тэлефонам. Прапаноўваць на т.т. 52 - 594 (СВЯТЛАНА), 53 - 123 (АЛЕСЬ).***

**ПРАДАЕЦЦА акардыён. Т.52 - 594.**

Можна набыць беларускамоўныя аўдыё - і відыёкасэты.
Т.53-234.

**Над выпускам укладкі працавалі:**
**АЛЕГ МЯЦЕЛІЦА ( рэдактар) і сябры Бялыныцкай суполкі ГА «Маладая Грамада».**
**Кантактовы тэл. 53 - 234.**
**Наклад 299 паасобнікаў.**
**Распаўсюджваецца бясплатна.**